*Акрэдытацыя не павінна пераўтварацца на дазвол на працу, і яе адсутнасць не павінна абмяжоўваць магчымасці журналістаў працаваць і свабодна выказваць сваё меркаванне. Усе журналісты павінны мець тыя ж прафесійныя правы, што і журналісты, якія працуюць у афіцыйна зарэгістраваных СМІ, уключаючы права шукаць і распаўсюджваць інфармацыю.*

*Дуня Міятавіч,*
*Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ*



# ЗМЕСТ:

# СТАНОВІШЧА Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў КРАСАВІКУ–ЧЭРВЕНІ 2014г. (агляд)

Сітуацыя ў галіне СМІ і, шырэй, свабоды выказвання меркавання ў Беларусі знаходзілася ў "замарожаным" стане з канца 2012 г. Напрыканцы другога квартала 2014 г. у ёй пачалі праяўляцца адмоўныя тэндэнцыі.

Сярод падзеяў, якія негатыўна ўплываюць на свабоду выказвання СМІ ў краіне, трэба назваць:

- **узбуджэнне крымінальнай справы за абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;**
- **вяртанне на перагляд справы супраць тэлеканала "Белсат";**
- **стварэнне прэцэдэнтаў выкарыстання арт. 22.9 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях ("Парушэнне заканадаўства пра СМІ") у дачыненні да журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.**

С 3 другога боку, у гэты перыяд зменшылася колькасць затрыманняў журналістаў у сувязі з іх прафесійнай дзейнасцю. За другі квартал бягучага года ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" зафіксавала толькі адно затрыманне трох журналістаў. Пры гэтым усе яны былі вызваленыя з-пад варты пасля ўмяшальніцтва кіраўніцтва мінскай гарадской міліцыі. Усяго з пачатку 2014 года ў краіне былі затрыманыя за прафесійную дзейнасць 17 журналістаў, а за ўвесь 2013 г. – каля 50 асобаў.



Чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску (9-25 траўня 2014 г.) меў нязначны ўплыў на свабоду СМІ ў Беларусі.

У чэрвені адбылася змена міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Алесь Пралясkoўскі быў вызвалены з гэтай пасады 4 чэрвеня 2014 г. Выконваючым абавязкі міністра, а потым і міністрам была прызначаная Лілія Ананіч, якая раней займала пасаду першага намесніка міністра інфармацыі. (Спадарыня Ананіч працуе ў сістэме дзяржаўнага кіравання СМІ з 1992 г., а ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь з моманту яго заснавання.) Большасць экспертаў сыходзіцца ў меркаванні, што змена міністра інфармацыі не скіраваная на дэмакратызацыю стасункаў у галіне СМІ і не будзе мець уплыў на становішча ў гэтай сферы.


photo.bymedia.net

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў СТУДЗЕНІ-САКАВІКУ 2014 года




## Уплыў чэмпіянату свету па хакеі – 2014 на становішча са СМІ ў Беларусі

Напярэдадні правядзення чэмпіянату свету беларускія ўлады абвясцілі, што журналісты, якія атрымаюць акрэдытацыю Міжнароднай федэрацыі хакея, будуць вызваленыя ад неабходнасці афармлення беларускай візы і акрэдытацыі ў МЗС Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым адзначалася, што журналісты не будуць абмежаваныя падрыхтоўкай матэрыялаў на тэмы, якія звязаны з хакеем.

На пачатку чэмпіянату стала вядома, што журналісты "Радыё Свабода", "Бі-Бі-Сі" і некаторых іншых замежных СМІ (у тым ліку і тыя, хто меў акрэдытацыю ў Беларусі) не здолелі атрымаць акрэдытацыю Міжнароднай федэрацыі па хакеі, нягледзячы на свой своечасовы зварот у гэту арганізацыю. Беларускія арганізатары спартовага мерапрыемства

сцвярджаюць, што не маюць ніякіх адносінаў да гэтых рашэнняў МФК.

Большасць журналістаў, акрэдытаваных МФХ, не сутыкалася з перашкодамі ў сваёй прафесійнай дзейнасці. Тым не менш, у Мінску, дзе адбываліся гульні хакейнага чэмпіянату, былі зафіксаваныя некалькі беспасярэдне звязаных з чэмпіянатам канфліктаў у галіне СМІ.

**8 траўня** супрацоўнікі міліцыі перашкодзілі працы здымачнай групы фінскага тэлеканала “Yleisradio”. Міліцыя забараніла журналістам праводзіць апытанне пра становішча ў краіне, якое не мела адносінаў да хакейнага першынства. **9 траўня** падчас правядзення вулічнага апытання былі затрыманыя акрэдытаваныя ў краіне журналісты беларускай службы “Радыё Свабода”. Іх вызвалілі праз дзве гадзіны пасля затрымання пасля ўмяшання кіраўніцтва ГУУС Мінгарвыканкама. **12 траўня** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла папярэджанне рэдакцыі “Снплюс. Свободные новости плюс” за артыкул пра ЧС-2014 па хакеі, які, на погляд міністэрства, фарміруе адмоўнае стаўленне да чэмпіянату. (Варта заўважыць, што, паводле беларускага заканадаўства пра СМІ, два папярэджанні на працягу года могуць прывесці да закрыцця СМІ ў судовым парадку.)

За межамі Мінска становішча ў сферы СМІ ў перыяд правядзення чэмпіянату не змянілася.

## Новая крымінальная справа за абразу прэзідэнта

**19 чэрвеня** ў Беларусі была ўзбуджана новая крымінальная справа за абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.2 арт.368 КК РБ) у адносінах да 68-гадовай Кацярыны Садоўскай. Падставай для гэтага стаўся яе запіс у Кнізе скаргаў і прапаноў суда Савецкага раёна г. Мінска. У сваім запісу спадарыня Садоўская выказала абурэнне з прычыны адвольных арыштаў актывістаў напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі, як сцвярджалася пазоўнікам,“з выкарыстаннем абразлівых словаў, словазлучэнняў і фразаў,


palitviazni.info

якія ўтрымліваюць прыніжальную і непрыстойную ацэнку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

**Частка 2 артыкула 368 КК РБ ("Публічная абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейсненая асобай, якая раней была асуджана за абразу або паклёп, або ў спалучэнні з абвінавачаннем ў здзяйсненні цяжкога або асабліва цяжкога злачынства") прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу або папраўчых працаў на тэрмін да двух год, або абмежавання волі на тэрмін да трох год, або пазбаўлення волі на такі ж самы тэрмін.**

Раней, у кастрычніку 2006 г., Кацярына Садоўская ўжо прызнавалася віноўнай у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага гэтым артыкулам. Тады яна была асуджаная да двух год пазбаўлення волі і вызваленая ўмоўна-датэрмінова ў траўні 2007 г.

## Вяртанне на перагляд справы супраць тэлеканала "Белсат"




**24 чэрвеня** Прэзідыум Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь адмяніў рашэнне, якое было вынесена калегіяй Вярхоўнага суда па інтэлектуальнай уласнасці на карысць спадарожнікавага тэлеканала "Белсат ТВ". Позва ўладальніка беларускай фірмы "БЕЛСАТ-плюс" Андрэя Белякова супраць кампаніі "Польская тэлевізія", што з'яўляецца заснавальнікам "Белсат ТВ", была накіраваная на паўторны разгляд у сувязі з недастатковым, на думку Прэзідыума ВС, вывучэннем доказаў па справе.

Позва ў абарону правоў на гандлёвы знак была пададзеная А. Беляковым яшчэ ў траўні 2013 г., а 27 студзеня 2014 г. калегія Вярхоўнага суда па інтэлектуальнай уласнасці яе адхіліла. Гэтае судовае рашэнне было апратэставанае намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Аляксандрам Федарцовым амаль праз пяць месяцаў пасля вынясення рашэння па справе і праз тры дні пасля правядзення беларуска-польскіх кансультацыяў на ўзроўні МЗС Беларусі і Польшчы.

# Штрафы за працу без акрэдытацыі

На працягу красавіка-чэрвеня суды Гродна і Гарадзенскай вобласці тройчы прыцягвалі да адміністратыўнай адказнасці журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

**4 красавіка** суд Ленінскага раёна г. Гродна прызнаў незалежнага журналіста Аляксандра Дзянісава вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ (частка 2, артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях). **16 чэрвеня** суд Кастрычніцкага раёна г. Гродна аштрафаваў іншага гарадзенскага журналіста Андрэя Мялешку на такой самай падставе. **27 траўня** Карэліцкі раённы суд (Гарадзенская вобласць) прыцягнуў да адказнасці паводле артыкула 22.9, частка 2 КаАП РБ Алеся Залеўскага, аўтара і вядучага праграм тэлеканала “Белсат”. Кожны з журналістаў быў аштрафаваны на 30 базавых велічыняў (прыблізна 330 еўра). Незаконным вырабам прадукцыі СМІ суд палічыў супрацоўніцтва журналістаў без акрэдытацыі МЗС Беларусі з замежнымі медыямі (тэлеканал “Белсат”, “Беларускае Радыё Рацыя”). Пры гэтым нараканняў на характар і змест распаўсюджанай журналістамі інфармацыі не было.

**Артыкул 22.9 быў выкарыстаны ў дачыненні да журналістаў, што супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, упершыню. 17 чэрвеня Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч выказала заклапочанасць з прычыны павелічэння спагнанняў з журналістаў за працу без акрэдытацыі.**



evreiskiy.kiev.ua

“Я заклапочана, бо гэта практыка можа фактычна азначаць забарону на журналісцкую дзейнасць,” – заўважыла Міятавіч. Яна паведаміла, што **5 чэрвеня** накіравала зварот да міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея, у якім узняла пытанне пра неабходнасць рэфармавання патрабаванняў, датычных акрэдытацыі журналістаў.

Раней праца без акрэдытацыі часцяком прыводзіла да вынясення ў адрас журналістаў папярэджанняў

пракуратуры. Падобная практыка працягваецца і ў цяперашні момант. У чэрвені пракуратура Віцебскай вобласці вынесла пісьмовае папярэджанне мясцовай журналістцы сп-ні Сцяпанавай, а пракуратура Брэсцкай вобласці – незалежнаму журналісту Максіму Хлябцу. Паводле звестак Беларускай асацыяцыі журналістаў, з пачатку года незалежныя журналісты атрымалі не менш як шэсць папярэджанняў за супрацу з замежнымі СМІ. За мінулы год органы пракуратуры, паводле звестак БАЖ, вынеслі папярэджанні дзевяці журналістам.

## Пераслед выдаўцоў маланакладнай прэсы

Частка 2 артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь “Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі” выкарыстоўвалася таксама для прыцягнення да адказнасці выдаўцоў і распаўсюднікаў маланакладных СМІ.

**У адпаведнасці з законам РБ “Аб сродках масавай інфармацыі” выданні накладам да 300 асобнікаў вызваленыя ад дзяржаўнай рэгістрацыі. Аднак супрацоўнікі міліцыі і суды нярэдка прыцягваюць за адсутнасць рэгістрацыі да адказнасці іх выдаўцоў і распаўсюднікаў.**

**2 красавіка** Бешанковіцкі раённы суд (Віцебская вобласць) аштрафаваў у максімальна прадугледжаным часткай 2 арт.22.9 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях памеры 50 базавых велічыняў (каля 550 еўра) мясцовага настаўніка і паэта Георгія Станкевіча за выраб і распаўсюд газеты “Крывінка”, якую грамадскі актывіст выдае за ўласныя сродкі. Спадар Станкевіч быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці паводле памянёнага артыкула ўжо ў трэці раз за некалькі апошніх год. Ягоная скарга на судовую пастанову, якая была вынесеная ў 2010 годзе, чакае разгляду ў Камітэце па правах чалавека ААН.



**17 красавіка** Смаргонскі раённы суд (Гродзенская вобласць) аштрафаваў на 20 базавых велічыняў

(каля 216 еўра) грамадскага распаўсюдніка малакладнага праваабарончага бюлетэня “Смаргонскі грак” Уладзіміра Шульжыцкага. Як і ў выпадку з Г.Станкевічам, ён быў прыцягнуты да адказнасці на падставе адсутнасці дамовы на распаўсюд СМІ з юрыдычнай асобай, на якую ўскладзеныя функцыі рэдакцыі СМІ.

*“Становішча даведзена да абсурду. Суддзя прызнала, што СМІ накладам да 300 асобнікаў не падлягаюць рэгістрацыі, і таму не патрабуецца стварэння юрыдычнай асобы – рэдакцыі для распаўсюду падобных СМІ. Тым не менш, аштрафавала за тое, што Шульжыцкі не меў дамовы з юрыдычнай асобай на распаўсюд бюлетэня,”* – адзначыў праваабаронца, выдавец “Смаргонскага грака” Алесь Дзергачоў.

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА




**30 красавіка** амерыканская даследчая арганізацыя Freedom House выдала штогадовы даклад пра стан свабоды СМІ ў 197 краінах свету (Freedom of the Press 2014). Беларусь, як і ў мінулыя гады, разам з Узбекістанам, Туркменістанам і Іранам патрапіла ў лік васьмі краінаў, у якіх умовы працы для журналістаў найгоршыя. “Ва ўсіх гэтых краінах асяроддзе для існавання СМІ неверагодна абмежаванае. Там амаль няма прыватных СМІ. Вельмі невялікі ўплыў маюць і інтэрнэт-СМІ. Гэта вельмі закрытае асяроддзе нават для інтэрнэту. І дзяржава рэпрэсуе і пераследуе ўсіх, хто падае незалежны голас,” – казала пра краіны, якія атрымалі найніжэйшы Індэкс свабоды прэсы спадарыня Карын Карлекар, якая ўзначальвала сёлета даследаванне Freedom House.

REPORTERS WITHOUT BORDERS
FOR PRESS FREEDOM

Міжнародная арганізацыя “Рэпарцёры без межаў” упершыню склала спіс “Сто герояў інфармацыі”. У яго ўвайшлі журналісты з 65 краінаў ва ўзросце з 25 ла 75 год. Сярод іншых, у прэстыжны спіс патрапілі старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Жанна Літвіна і журналіст, які неаднаразова абвінавачваўся ў паклёпе і абразе прэзідэнта Беларусі па крымінальных артыкулах, Андрэй

Пачобут. "Чаму ў спіс 65 краінаў патрапіла Беларусь? Таму што амаль 20 год мы жывем з сістэмнымі праблемамі," – сказала Ж. Літвіна. На думку А.Пачобута ўключэнне ягонага прозвішча ў "спіс ста" перадусім азначае, што становішча з журналістамі ў Беларусі "застаецца скрайне цяжкім".

